# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 25 (590) ГОД XII 18 ЧЭРВЕНЯ 1967 г ЦАНА 60 гр.




## ВАЙНА ГОД 1941

1)

З вяршыні Замкавай гары, якая ўзвышаецца над Мельнікам, што ў Сяміцкім павеце, адкрываецца жывапісны краявід. Сярод зеляніны дрэў і кустоў шматлікімі выгібамі цячэ рака Буг. Летам 1940 года над Бугам вясёла




і бестурботна шчабяталі птушкі. Не толькі яны пераконвалі нас, што вайны не будзе.

Летам 1940 года Гітлер з найлепшымі сваімі сябрамі адпачываў у горах, у палацы Берггоф. **Тады іменна ў яго галаве даспела неадкладная ідэя, каб разграміць Савецкі Саюз.**

Ідэю фюрэра 29 ліпеня 1940 года начальнік штаба камандавання вермахтам, **генерал Ёдль,** як вялікую дзяржаўную тайну, пераказаў некаторым вышэйшым афіцэрам **Аддзела дзяржаўнай абароны.** Распачалася паспяховая, але планавая падрыхтоўка. Яна ахапіла ваенныя сілы і ваенную прамысловасць, ды ўсе галіны гаспадарчага жыцця.

Гітлер намераны быў пачаць вайну яшчэ восенню 1940 года. Маршал Кайтэль аднак пераканаў яго, што канцэнтрацыя нямецкага войска ва ўсходніх раёнах акупіраванай Польшчы патрабуе ўсебаковай падрыхтоўкі, што асенне-зімовы перыяд не спрыяе для **«маланкавай вайны»** на шырокіх прасторах Савецкага Саюза. Трэба найперш пабудаваць чыгуначныя і шасейныя дарогі, склады гаручага і зброі, абсталяваць палігоны для абучэння войска.

Так нарадзіўся **нібы мірны** план **«Аўфбаў Ост» — «адбудова ўсходу»**. 9 жніўня 1940 года Гітлер падпісаў гэты план.

У выніку далейшых распрацовак германскія ваенныя спецыялісты склалі наступны план — **«Фрыц».** Была гэта ўжо канкрэтная распрацоўка разгрому Савецкага Саюза. 17 снежня 1940 года **генерал Ёдль** прадставіў гэты план свайму фюрэру. Гітлер у асноўным адобрыў намеры сваіх генералаў. Яны ж толькі ўдакладнілі яго ўласныя думкі. Змяніў аднак назву плана з **«Фрыц»** на **«Фаль Барбароса».** Барбароса — гэта імя караля Рымскай Імперыі Нямецкага народа з XII стагоддзя. Меў ён быць сімвалам для ўстанаўлення германскай імперыі ў XX стагоддзі.

Так нарадзіўся афіцыйны дзяржаўны дакумент: **«Указанні № 21 «Справа Барбароса»,** які 18.XII.1940 года падпісаў «Фюрэр і Галоўны камандзір вермахта» Адольф Гітлер. Дзень яго ажыццяўлення: **15 мая 1941 года.** Істоту плана «Барбароса» фюрэр сваім падуладным 9 студзеня 1941 года растлумачыў так:

«Магчымасць, што Савецкі Саюз прыступіць да вайны, падтрымоўвае англічан. Яны адмовяцца ад вайны толькі тады, калі прападзе апошняя надзея на кантыненце... Таму цяпер трэба разбіць Савецкі Саюз. Тады англічане або паддадуцца або Немцы павядуць барацьбу супраць Вялікай Брытаніі пры больш спрыяльных абставінах».

Разгром СССР на працягу 3—4 месяцаў выдаваўся Гітлеру справай простай і зразумелай, бо:

«Збройныя сілы Савецкага Саюза, — гаварыў ён, — стаяць ніжэй ад нямецкіх, калі разыходзіцца пра ўзбраенне, персанал, а перш за ўсё — пра камандванне. Таму цяперашні момант для ўсходняй кампаніі з'яўляецца найбольш спрыяльным. Трэба спадзявацца, што пабітая армія Савецкага Саюза пападзе ў яшчэ большы разлад, чым французская армія ў 1940 годзе».

**(Працяг на стар. 5)**

## НАРАДЖЭННЯ СОРАК ПЕРШАГА ГОДА

«...Нараджэння сорак першага года
Стаць павінны на ўлік вайсковы!» —
І суровага часу подых
Зноўку чуецца ў гэтых словах.

Год вайны — на улік вайсковы!
Ўжо салдатамі сталі тыя,
Бацька чый лёг пад Брэстам, Псковам,
Не зганьбіўшы сцягі святыя.

Маці першынец быў не ў радасць.
Калыхалі зямлю грымоты,
Калыханку спявалі снарады,
Туманом спавівалі балоты.

Ды сіней ад азёрнай хвалі
Пазіралі на свет вачаняты.
Дарагое імя давалі
Кучараваму — «ў памяць таты».

Не была на свой лёс у крыўдзе
Маці ў голад, у час блакады.
— Ну, не плач, хутка татка прыйдзе —
На заданне пайшоў з атрадам...

Толькі ён не ішоў — дый годзе,
Толькі плакала маці ўпотай.
...Кожны месяц паштар прыходзіў,
Кожны месяц рыпелі вароты.

І ляжала пенсія жарам
І балюча пякла далоні.
...Гэта вестка
трывожным цяжарам
Плечы маці прыгорбіць сёння...

П'юць няхай на вяселлях па стопцы
Ды вядуць маладых да гасподы,
Гром вясновы слухаюць
хлопцы
Нараджэння сорак першага года...

**Рыгор Барадулін**

# БГКТ

### ВЫЯЗНОЕ ПАСЯДЖЭННЕ

2-га чэрвеня пасяджэнне Прэзідыума ГП адбылося ў Мілейчыцах у сядзібе праўлення аддзела. Галоўным яго пунктам была ацэнка працы Сяміцкага аддзела БГКТ. Інфармацыю аб дзейнасці аддзела злажыў яго старшыня Анатоль Мартыновіч. Працу аддзела Прэзідыум ГП ацаніў станоўча. Падчас дыскусіі была звернута ўвага на неабходнасць пашырэння ўплыву БГКТ на далейшыя вёскі,/ у якіх жывуць беларусы, на разбудову гурткоў БГКТ, на няправільнае размяшчэнне настаўніцкіх кадраў, якія ведаюць беларускую мову і на пашырэнне мастацкай самадзейнасці.

У пасяджэнні Прэзідыума ГП апрача членаў праўлення Сяміцкага аддзела ўзялі ўдзел: сакратар КП ПАРП Ян Плешук, намеснік старшыні прэзідыума ПРН Мікалай Падлашчук і прадстаўнік аддзела ўнутраных спраў ВРН — Анатоль Несцяровіч.

(Аб працы Сяміцкага аддзела БГКТ іншым разам).

Другім пунктам павесткі пасяджэння была абмяркоўка рэалізацыі пастаноў апошняга пленума ГП. Між іншым разважаліся магчымасці ўключэння БГКТ да грамадскай камасацыі зямлі ў беларускіх вёсках.

### ЛІТАРАТУРНЫ СЕМІНАР

3 і 4 чэрвеня ў памяшканні ГП у Беластоку адбыўся семінар літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа». У ім узяло ўдзел 16 асоб. Распачаўся семінар дакладам доктара Аляксандра Баршчэўскага. Тэма даклада — «50 год савецкай літаратуры». Удзельнікі семінара абмяркоўвалі новыя творы прачытаныя наступнымі аўтарамі: Уладзімірам Гайдуком, Юркам Геніушам і Янкам Цялушэцкім. На семінар быў дастаўлены проста з друкарні зборнік вершаў Віктара Шведа пад загалоўкам «Жыццёвыя сцежкі». Віктар Швед прачытаў са зборніка шэраг вершаў. Члены літаратурнага аб'яднання абмяркоўвалі мастацкую вартасць гэтых вершаў і выказвалі свае погляды адносна ўсяе творчасці Віктара Шведа.

* * *

3-га чэрвеня ўдзельнікі семінара мелі тры аўтарскія сустрэчы на Сакольшчыне: Мікола Лобач і Уладзімір Гайдук у Паўночным Востраве, Яша Бурш і Янка Цялушэцкі ў Лазнях, а Віктар Швед у Талькоўшчыне.

### ДАКЛАД

28-га мая журналіст «Нівы» Вера Леўчук у гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку выступіла з дакладам на тэму «Дзейнасць і роля Францішка Скарыны ў беларускай літаратуры і асабліва ў друкарстве».

### У МІХАЛОВЕ

1-га чэрвеня ўдзельнікі пасяджэння праўлення аддзела БГКТ у Міхалове абмяркоўвалі наступныя справы:

1) абслуга гурткоў БГКТ у летні перыяд,
2) каардынацыя працы ў Міхалоўскім доме культуры,
3) супрацоўніцтва са школамі.

У гэтай нарадзе ўзялі ўдзел старшыня ГП В. Склубоўскі і сакратар ГП Ул. Юзвюк, новы кіраўнік Дома культуры А. Філановіч і прэзас ГС-у Я. Ваўрэнюк.

### У ГАРАДКУ

1-га чэрвеня старшыня ГП — В. Склубоўскі і сакратар Ул. Юзвюк мелі нараду з часткай праўлення аддзела ў Гарадку і ўзялі ўдзел на ўрачыстасці для дзяцей з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці, якая адбывалася ў Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага.

### БЕЛАРУСКІЯ АРНАМЕНТЫ

Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ўпрыгожыў чытальную залу планшамі беларускіх арнаментаў і ўбораў, якія падарыў для ГП Дом савецкай культуры ў Варшаве. 28 успомненых планшаў развешаны на сценах клуба.

(мх)

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

Здарэнні, якія характэрны ў гэтых днях Блізкаму Усходу, так хутка змяняюцца, што сапраўды цяжка пісаць і думаць, што тое, аб чым пішам сёння, заўтра будзе актуальным. Нават не маем зараз (калі аддаем нумар да друку) каментарыяў на тэму актуальнай сітуацыі на Блізкім Усходзе, і таму нашым чытачам на больш канкрэтныя звесткі трэба будзе пачакаць.

Аднак хочацца напомніць найважнейшыя здарэнні на Блізкім Усходзе за мінулы тыдзень. Вось яны. Амаль **безупынна збіраўся Савет Бяспекі,** які заклікаў ваюючыя бакі ўстрымаць ваенныя дзеянні. Прэсавыя агенцтвы інфармуюць, што на ўсіх франтах наступіла перамір'е. З другога боку надыходзяць інфармацыі, што **Ізраільскія вайска міма афіцыяльнай згоды на перамір'е, пасоўваюцца ўглуб Сірыі.** Працягваючаяся агрэсія з боку Ізраіля была, між іншым, прычынай, што **Савецкі Саюз парваў дыпламатычныя адносіны з Ізраілем.** Гэты факт быў таксама першым крокам з боку СССР у рэалізацыі заявы з **нарады камуністычных партый і ўрадаў сацыялістычных краін,** якая адбылася **ў Маскве** і разглядала блізка-ўсходні крызіс. Важным здарэннем было і тое, што **Насер** падаўся ў адстаўку і што **згодна з воляй народа рашыў далей быць прэзідэнтам Егіпту.** Гэта іменна і з'яўляецца фактам, што Насер карыстаецца вялікім аўтарытэтам у егіпецкага народа.

Каментуючы вайну на Блізкім Усходзе, як і кожную, неабходна памятаць, **хто з'яўляецца агрэсарам.** Мы даскапала памятаем, як гітлераўскія танкеткі хутка імчаліся па нашых гасцінцах. Сінайская пустыня, якую акупаваў Ізраіль, напамінае акупіраванне немцамі польскага Мазоўша ці Беласточчыны. І ў гэтых катэгорыях трэба аналізаваць канфлікт. Калі мы гэтак будзем думаць, дык тады неяк стане ясней, што карысці тэрытарыяльныя з агрэсіі на Блізкім Усходзе не надта істотныя.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У хуткім часе мае сабрацца канферэнцыя шэфаў арабскіх краін. Мае яна разгледзець справы звязаныя з канфліктам і справы нафты, а перад усім пытанне, ці высылаць яе краінам, якія сімпатызуюць Ізраілю.

### МАТУРА

Дыскусія аб матуральных экзаменах характэрна таксама Францыі. Варта адзначыць, што ў Францыі, каб ліквідаваць масавыя паступленні на вузы, масава не дапускаецца да матуры. У гэтым годзе не дапушчана да матуры 100 тысяч вучняў. Нічога дзіўнага, што дыскусія ў Францыі на гэтую тэму набірае вострасці.

### ДАХОДЫ

**Гадавы даход ЗША складае лік 750** мільярдаў долараў, **а гадавы даход Паўночнага В'етнама,** гэта значыць Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнама — **1 мільярд долараў.** Прапорцыі — 750:1. А ўжо над В'етнамам збіта больш 2 тысяч самалётаў. Простай матэматыкай не дасца выйграць гэтай бандыцкай вайны. (А.К.)

## БССР

### ДЭКАДА

Адбываецца Дэкада узбекскай літаратуры і мастацтва ў Беларускай ССР.

Удзельнікі Дэкады наведалі Гродна, дзе адбылася ўрачыстая мнагалюдная сустрэча на Савецкай плошчы горада. У сустрэчы прынялі ўдзел: А. Ульяновіч, сакратар абкома КПБ, А. Магільніцкі і А. Забнінская, сакратары гарадскога камітэта КПБ, С. Пранько, намеснік старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта.

Ад імя творчай інтэлігенцыі горада артыстаў віталі заслужаны дзеяч культуры БССР А. Шыдлоўскі, піянерка Галя Горбач.

З прамовай выступіў міністр культуры Узбекістана, В. Західаў.

Увечары адбыўся вялікі канцэрт Дзяржаўнага эстраднага аркестра Узбекскай ССР.

Падобныя сустрэчы адбываюцца ў многіх гарадах і мясцовасцях Беларусі — м. ін. у Брэсце.

### СУСТРЭЧА

У Брэсце пабывала вялікая група ветэранаў камуністычнага і рабочага руху Польшчы. Сярод прыбыўшых загадчык аддзела ЦК ПАРП, Леан Стасяк, міністр культуры Люцыян Матыка, старшыня камітэта працы і платы, Аляксандр Бурскі.

Польскія госці наведалі Брэсцкую крэпасць, агледзелі музей гераічнай абароны цытадэлі.

Польскія ветэраны прагасцявалі на Беларусі пяць дзён.

### НАЙБОЛЬШАЯ

У Полацкім нафтаперапрацоўчым камбінаце здадзена ў эксплуатацыю ўстаноўку атмасфернай трубчаткі. Гэта першая з серыі ўстановак вялікай моцы. Роўных ёй няма ў цэлай Еўропе.

Дзякуючы гэтай устаноўцы Полацкі нафтаперапрацоўчы завод удвая павялічыць сваю прадукцыю.

### КРАЯЗНАЎЧАЯ

Рэспубліканскі інстытут педагогікі апрацаваў першую краязнаўчую карту Беларусі. Побач з традыцыйнымі геаграфічнымі данымі на ёй адзначаны помнікі шматвяковай гісторыі і культуры. Па гэтай карце можна даведацца, калі былі заснаваны не толькі вялікія гарады, але і многія раённыя цэнтры — можна прасачыць рэвалюцыйныя падзеі і баі з іншаземнымі захопнікамі. Паказаны таксама месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю выдатных польскіх пісьменнікаў і кампазітараў: Міцкевіча, Ажэшкі, Манюшкі, Агінскага.

### МУЗЕЙ

У пасёлку Волма, Мінскай вобласці, створана музей Станіслава Манюшкі. Атрымана ўжо першыя каштоўныя экспанаты. Польскі музыказнавец Мар'ян Фукс прывёз партрэт Манюшкі, доўгаіграючыя пласцінкі з наігранымі операмі «Галька» і «Страшны двор», фотаздымкі сцэн з гэтых твораў у пастаноўцы Варшаўскага опернага тэатра і іншыя дакументы. Беларускія мастацтвазнаўцы падрыхтавалі для музея цікавыя матэрыялы аб творчым супрацоўніцтве беларускага паэта і драматурга Дуніна-Марцінкевіча з Манюшкам, аб пастаноўцы оперы «Страшны двор» на сцэне акадэмічнага тэатра ў Мінску. (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ЗАЯВА

У сувязі з агрэсіяй на арабскія дзяржавы ўрад Польскай Народнай Рэспублікі апублікаваў заяву, у якой між іншым гаворыцца:

«Польскі народ і ўрад Польскай Народнай Рэспублікі выказваюць сваё найглыбейшае абурэнне з прычыны агрэсіі Ізраіля, асуджаюць яе зачыншчыкаў і патрабуюць неадкладнага ўстрымання агрэсіі і павароту ізраільскіх войск на папярэднія пазіцыі.

Урад Польскай Народнай Рэспублікі зробіць усё, што ў яго магчымасці, каб разам з іншымі саюзнымі дзяржавамі і ўсімі сіламі міру і незалежнасці народаў дапамагчы ўстрымаць агрэсію Ізраіля супраць Арабскай Аб'яднанай Рэспублікі і іншых арабскіх дзяржаў».

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Варшаве адбылася міжнародная канферэнцыя прысвечаная будаўляным матэрыялам. Прыняло ў ёй удзел каля 1500 асоб, у тым ліку 500 з-за мяжы.

### ШКОЛЫ І ВУЧНІ

З аказіі заканчэння навучальнага года друк падае наступныя дадзеныя:

Навуку ў школах у гэтым годзе закончыць 7.580.000 моладзі, восьмыя класы закончыць каля 360 тысяч моладзі. Уся гэтая моладзь будзе магла вучыцца далей у агульнаадукацыйных ліцэях або ў рознага тыпу прафесіянальных школах (разам каля 395 тысяч месц). У сувязі з тым, што колькасць месц у сярэдніх школах большая чымсьці колькасць абітурыентаў васьмікласнай школы, сярэднія школы будуць маглі прыняць пэўную колькасць абітурыентаў з папярэдніх гадоў.

### ТЭЛЕВІЗІЯ І ПОЗНАНЬСКАЯ ЯРМАРКА

25 чэрвеня а гадзіне $20^{17}$ польская тэлевізія ўключыцца са сваёй праграмай у трансляцыю з усяго свету перказваючы пры дапамозе міжнароднай сістэмы камунікацыйных сатэлітаў. У гэтай вялікай праграме, якую аглядаць будзе 800 мільёнаў тэлегледачоў, Польшчы прызнана 3 мінуты часу, з чаго паўтары мінуты прызначана на рэпартажныя «мігаўкі» з XXXVI Міжнароднай познаньскай ярмаркі.

### ТАПЕЛЬЦЫ

У гэтым годзе ўтапілася ўжо 288 асоб. Прадбачыцца, што на працягу чэрвеня лік гэты значна пабольшыцца (у мінулым годзе ў чэрвені ўтапілася 330 асоб). Міліцыя заклікае насельніцтва а асабліва бацькоў да пазбягання купання ў незабяспечаных месцах.

### ДАСЛЕДВАННЕ КОСМАСУ

Польская Акадэмія навук апрацавала план удзелу Польшчы ў даследваннях космасу. Даследванні праводзіцца будуць пры дапамозе савецкіх спутнікаў. Польскія вучоныя працаваць будуць над праблемамі касмічнай медыцыны і біялогіі, а таксама над некаторымі праблемамі метэаралогіі і касмічных спалучэнняў. (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ЛОК

Адбыўся VIII Ваяводскі з'езд Лігі абароны краіны (ЛОК). У з'ездзе прынялі ўдзел прадстаўнікі цэнтральных улад у асобах: Лешка Бэднарскага, члена Прэзідыума Галоўнага праўлення ЛОК, палкоўніка Тадэуша Камінскага, прадстаўніка Галоўнага Палітычнага ўпраўлення Войска Польскага, палкоўніка Уладзіслава Вісліча, прадстаўніка Галоўнага інспектарату ОТК.

У з'ездзе прыняў удзел Вітальд Мікульскі, сакратар па справах прапаганды Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку.

З дакладам выступіў Эдмунд Шчэпаньскі, старшыня Ваяводскага праўлення ЛОК у Беластоку.

### НАРАДА

У Беластоку два дні адбывалася ваяводская нарада старшынь грамадскіх радаў жанчын. Нараду гэту сарганізавала Ваяводская рада жанчын супольна з Ваяводскім камітэтам Фронту адзінства народа.

Такая нарада адбылася ўпершыню ў нашым ваяводстве.

Адной з істотных спраў, якую абмеркавана на гэтай нарадзе, з'яўляецца **праблема працы для вясковых жанчын,** якія патрабуюць дадатковага заробку. Абмеркавана таксама задачы сельскагаспадарчых гурткоў — з улічэннем ролі гурткоў вясковых гаспадынь.

### КОНКУРС

У Беластоку адбыўся III-ці Агульнапольскі дэкламатарскі конкурс сляпых. Да гэтага конкурсу закваліфікавалася 39 асоб — інвалідаў.

### ТАВАРЫСТВА

У Беластоку ўзнікла яшчэ адно таварыства: Беластоцкае Таварыства сяброў мастацтва. Старшынёю праўлення Таварыства выбраны вядомы інж. архітэктар Станіслаў Букоўскі. Намеснікам старшыні выбраны Юзэф Рыбінскі, журналіст ілюстраванай «Панарамы Поўначы», скарбнікам выбраны Міхал Баравік, прэзас Беластоцкай спулдзельні мешканёвай. Рыбінскі і Баравік доўгі час працавалі журналістамі «Нівы», што з прыемнасцю адзначаем у гэтым месцы.

Як вынікае з назвы арганізацыі, яе асноўнай задачай будзе папулярызацыя мастацтва.

### ПЛЕНУМ

У Аўгустове адбыўся пленум Галоўнага праўлення Лігі аховы прыроды (ЛОП) — з удзелам прадстаўнікоў ЦК ПАРП і зацікаўленых варшаўскіх міністэрстваў.

Інфармацыю аб дзейнасці ваяводскай арганізацыі Лігі зачытаў дацэнт др Васіль Чэчуга, які з'яўляецца намеснікам старшыні Ваяводскага праўлення ЛОП.

Галоўнай тэматыкай пленума з'яўляліся пытанні аховы прыроды на Беласточчыне — паўстрыманне вынішчэння першабытных закуткаў у нашых пушчах, паўстрыманне празмернай вырубкі лясоў над азёрамі і рэкамі, што даводзіць да сплычэння іх. Барацьба супроць затручвання рэк рознымі прамысловымі прадпрыемствамі. што даводзіць да вынішчэння рыб. І т. д. (С.Я.)




NIEDZIELA 18.VI.

8.30 Politechnika TV. 10.20 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa''. 11.00 Olimpiada Wiedzy Politycznej ZMW. 11.45 PKF. 11.55. Dziennik. 12.05 Play Bach — film muzyczny. 12.20 Koncert Reprezentacyjnej Orkiestry Wojska Polskiego. 13.00 Bezpośredni reportaż z Krakowa i Chorzowa z Wielkich Zawodów sportowych Nowej Huty i Huty ,,Batory''. 14.45 ,,Przemiany''. 15.10 Dla dzieci: ,,Ula i świat''. 15.30 Dla dzieci: J. Ratajczak wg baśni Andersena ,,Słowik'' (wystąpi Zespół Państw. Teatru Lalki i Aktora ,,Marcinek'' w Poznaniu). 16.20 ,,Piórkiem i węglem''. 16.40 ,,Szklana niedziela'' (I). 16.55 ,,Czarownice''. 17.25 ,,Szklana niedziela'' (II). 17.35 ,,Ludzie i zdarzenia''. 17.50 ,,Portrety'' — ,,Juliette Greco'' — film wł. 18.45 ,,Szklana niedziela'' (III). 19.05 Felieton literacki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Divertimento Opus 5'' — ,,Stomatologiczne''. 21.05 ,,Czyste szaleństwo'' — film fab. USA. 22.25 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 19.VI.

16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Przygody Gapiszona'' — film. 17.10 Dla młodych widzów: ,,Wiem jak fotografować latem''. Odc. IV. 17.30 ,,7 milionów młodych''. 17.45 Kino Krótkich Filmów. 18.10 ,,Eureka''. 18.40 ,,Mosty przez Bałtyk''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Nadzieja za 40 złotych'' — rep. 20.40 Teatr TV: I. Turgieniew ,,Miesiąc na wsi''. 22.10 ,,Na półkach księgarskich''. 22.20 ,,Sześć grudek złota'' — rep. film. Tele-Aru. 22.35 Dziennik.

WTOREK 20.VI.

9.40 ,,Mam 20 lat'' — film fab. radz. 12.30 Przysposobienie Rolnicze. 15.20 Przysposobienie Rolnicze. 16.00 Politechnika TV. 17.00 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: ,,Zrób to sam''. 17.20 Dla młodych widzów: ,,Sto przystani''. 17.40 Telekram. 17.50 ,,Paraquayos'' — zesp. wokalno-muzyczny z Paragwaju. 18.35 ,,Uwięzieni'' — rep. dokument. 19.05 TV Kurier Warszawski. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Mam 20 lat'' — film fab. radz. 22.55 Dziennik. 23.15 Politechnika TV.

ŚRODA 21.VI.

10.00 ,,Święty''. 16.20 ,,Przypominamy, radzimy'' — ,,Pielęgnacja ziemniaków''. 16.30 PKF. 16.40 ,,Zakątki Francji'' — film franc. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci — film. 17.20 ,,Nie tylko dla pań''. 17.40 Wszechnica TV: ,,Kontakty'' (,,W pracowniach polskich uczonych''). 18.10 ,,Wieczór z baletem angielskim'' — film 18.50 ,,Poznańskie spotkania''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Bałtyk — słowo o ziemi naszej'' — film pol. 20.20 ,,Święty''. 21.10 ,,Światowid''. 21.40 ,,Sześć razy sześć'' — film radz. 22.10 Magazyn Medyczny. 22.40 Dziennik.

CZWARTEK 22.VI.

16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Wiem jak fotografować latem''. Odc. V. 17.35 ,,Medale i detale''. 17.55 ,,Kwadrans zagadek''. 18.10 ,,Klub dobrych gospodarzy''. 18.40 ,,Tetyda na Skyros czyli Imporomptu w Wilanowie'' (,,Historyczne freski'') — inscenizacja muzyczna opery — Domenico Scarlattiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Rep. film. 20.20 Teatr Sensacji: ,,Osaczeni'' (A. Wydrzyński) (,,Pocztówka z Buenos Aires''). 21.35 Program publicystyczny. 22.20 Dziennik.

PIĄTEK 23.VI.

10.00 ,,Mezalians'' — film fab. węg. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Japoński ślub'' — film. 17.40 ,,Wielokropek''. 18.00 Wszechnica TV. 18.30 ,,Warszawa, ja i Ty''. 18.55 TV Kurier Mazowiecki. 19.10 Wywiad z Dowódcą Marynarki Wojennej v-ce Admirałem Zdzisławem Studzińskim. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 V Krajowy Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu. 22.15 Dziennik.

SOBOTA 24.VI.

10.00 ,,Młodość Anny'' — film fab. bułg. 15.55 Program tygodnia. 16.15 ,,Dwa kółka na codzień'' (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.30 ,,Spotkanie z przyrodą''. 16.55 Dziennik. 17.05 Sprawozdanie sportowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 V Krajowy Festiwal Piosenki Polskiej w Opolu. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 ,,Kochane rodzeństwo'' — film fab. ang.




16 czerwca

14.45 Program. 14.50 ,,Dla dzieci o zwierzątkach''. 15.30 ,,Wielka biblioteka encyklopedyczna''. 16.00 Sztafeta nowin. 17.00 Wszechzwiązkowy festiwal zespołów amatorskich. 20.00 Dziennik. 20.10 ,,Nieuchwytny Jan'' — film.

17 czerwca

12.25 Program. 12.30 Spektakl TV dla uczniów. 13.30 Dla przedszkolaków. 14.00 TV film dla dzieci. 14.25 Dziennik. 15.00 Służba zdrowia. 16.35 Spektakl teatralny z Leningradu. 20.00 ,,EKSPO-67''. 21.00 Międzynarodowy konkurs pieśni tanecznej. Program z Bratysławy.

18 czerwca

8.00 Gimnastyka. 8.30 Dla uczniów. 9.00 ,,Operacja'' ,,Syriusz-2''. 9.40 W muzeum sztuki im. Puszkina. 10.10 Kronika filmowa. 10.20 Dla uczniów. Program z NRD. 11.00 ,,Spotkanie z aktorami''. 12.00 ,,Na warcie zdrowia''. 12.35 Program muzyczny. 12.50 Dla żołnierzy. 13.30 ,,Poezja''. 14.10 Kiosk muzyczny. 14.40 Program satyryczny. 15.10 ,,Estrada-67''. 16.10 Klub filmowy. 17.10 Artysta ludowy ZSRR P. Lisycjan. 18.00 Dziennik. 18.30 I. Dworecki. ,,Siedemnastoletni mężczyzna''. Spektakl teatralny z Leningradu. 21.00 Szkatułka muzyczna.

**ВЯСКОВЫЯ ПАРТРЭТЫ**



**Малыш з Лукі. Фота: Ул. Паўлючук.**

# ГАРЦЭРСКІЯ КАНІКУЛЫ

Аб падрыхтоўцы летняй акцыі сакольскіх гарцэраў інфармуе нас прадстаўнік сакольскага гуфца ЗГП **Ежы Вярбіцкі.**

Даносіць ён, што ўжо ў сакавіку паклікаты ў Саколцы «Штаб летняй акцыі 67», які ўзначальвае камендант гуфца **Уладзімір Раманчук.**

На біваках будзе вучыцца як праводзіць акцыю лагернага лета каля 500 гарцэрак і гарцэраў. Гарцэрскія і зуховыя лагеры запоўніць 170 удзельнікаў. У нялагерным леце прыйме ўдзел каля 3 тысяч дзяцей і моладзі.

Хацелася б пажадаць усяго найлепшага сакольскім гарцэрам і ўпрасіцца на гарцэрскую «гарохаўку». (ак)

# КУБЕЛ ЦІ ЦЭБАР?

**(З этнаграфічнай кладоўкі)**

У 7 нумары «Нівы» быў змешчаны мой артыкул пад загалоўкам «Народная культура Беласточчыны ў фондах Этнаграфічнага Музея ў Торуне». Артыкул ілюстраваны пяццю фотаздымкамі этнаграфічных прадметаў. На адным з іх быў пасажны кубел набыты ў Паўночным Востраве, што на Сакольшчыне, якому ў рэдакцыі была зменена назва з кубла на цэбар. У сувязі з гэтым я вымушаны высветліць розніцу між кублам і цэбрам (бо да гэтага мяне змушаюць два чытачы «Нівы» — адзін, які жыве ў Польшчы, а другі — ў Савецкай Беларусі).

Як кубел, так і цэбар з'яўляюцца посудам з дрэва. Але між імі даволі вялікая розніца ў функцыі, форме і назве. Як адзін, так і другі ў мінулым былі выдаўблены з тоўстага драўлянага кругляка, падобна як т. зв. латакі на збожжа, ці кадаўбы. Але з часам вясковыя бандары навучыліся рабіць гэты посуд з клепак змацоўваючы яго ляшчынавымі абручамі. І даўнейшая назва цэбра і кубла аўтаматычна прысвоілася новаму посуду з клепак, як назва, так і функцыя іх не змянілася.

Як адзін, так і другі посуд маюць сваю старую гісторыю.

Назва кубла лацінскага паходжання ад слова cupella, што абазначае бочка. Прыйшла яна на славянскія абшары праз Нямеччыну ў гучанні Kübel. Назва цэбра паходжання славянскага чбар, чэбар, але на абшарах Польшчы яна змазурылася і атрымала сталае гучанне цэбар, якая ў такой форме распаўсюдзілася і на Русі.

Розніца між кублам а цэбрам у форме вялікая. Кубел больш ёмісты і значна вышэйшы ад цэбра і заўсёды мае крышку, якая замацоўваецца кійком прасунутым з аднаго вуха ў другое (зверху крышкі). Цэбар амаль на палову ніжэйшы ад кубла і не мае крышкі. Прызначэнне, або функцыя, двух відаў гэтага посуду наступнае:

Цэбар пакуль новы ў асноўным служыць да салення мяса, можа служыць да трымання чыстай вады ў хаце і г.д. Але, як крыху пастарэе, зносіцца, тады служыць за памыйніцу, да запарвання сечкі, да падрыхтоўкі корму свінням, да вынасу пойла каровам і г.д.

Затое функцыя кубла сапраўды «высакародная». У кубле перахоўваецца хатні дабытак: адзенне, тканіны, вычасаны лён, пража і г.д. А перад усім кубел быў у вялікай пашане там, дзе былі дзяўчаты «на выданні». Дзяўчаты загадзя рыхтавалі пасаг (перад усім тканіну) і перахоўвалі ў кубле. У часе вяселля кубел аўтаматычна ўдзельнічаў у вясельнай абрадавасці. Да яго прыдзялялі аднаго альбо двух удзельнікаў вяселля, якія называліся кубельнікамі, бо да такіх абавязкаў належала перавязенне кубла з пасагам да маладога (жаніха). Як бачым, кубел ад няпамятных часоў у асноўным выконваў абрадавую ролю, якую перанялі ад яго пачаткова скрыня, пасля куфар, камод і шафа. Пішучы гэту нататку, я жадаю направіць «крыўду» кублу, зробленую яму ў рэдакцыі «Нівы».

**М. Пецюкевіч**

# ПРА ЗАПАСОВЫЯ ЧАСЦІ

Нараканні на тое, што цяжка дастаць запасовых часцей да сельскагаспадарчых машын, настолькі ўжо нам абрыдлі, што не заўважаем змен на лепшае ў гэтых справах. У кожнай, так званай, жалезнай краме ГС-у цяпер ёсць запасовыя часці да жняярак, касілак і т.п. Вядома, можна здарыцца так, што ў краме якраз і няма такой часці, якая нам патрэбна. У сувязі з тым часта заўважаецца, што гаспадары не ведаюць, якім спосабам хутка дастаць патрэбную часць — спосабы з паўлітрам не заўсёды памагаюць, а робяць яшчэ горш: разбэшчваюць прадаўшчыкоў і ўсялякіх кіраўнікоў.

Варта ведаць, што **часта патрэбныя** запасовыя часці да сельскагаспадарчых машын можна без асаблівых клопатаў набыць у павятовым горадзе, нават не едучы ў той горад. У кожным павятовым горадзе, ёсць «складніцы» сельскагаспадарчых машын і **даволі** выслаць паштоўку на адрас «складніцы» з просьбай прыслаць даную часць, адпаведную да тыпу нашай машыны — і «складніца» вышле поштаю патрэбную нам часць. Плацім за яе на месцы — у пошце або пісьманосцу.

Асабліва папулярнымі сталі ў вёсках касілкі, якія наогул цяжка было набыць. Як мы даведаліся, у гэтым годзе наш вясковы гандаль атрымоўвае так многа касілак, што павінна хапіць іх усім. Напрыклад, ужо цяпер на Гайнаўскіх складах стаіць некалькі дзесяткаў касілак — падобная сітуацыя і ў іншых паветах. У Беластоку падлічылі, што да канца мінулага года распрадана ў ваяводстве больш чым дваццаць тысяч касілак. На гэты год вясковы гандаль атрымаў каля пяці тысяч касілак і 600 жняярак. Жняяркі менш папулярныя з увагі на тое, што можна карыстацца імі толькі пры жніве збожжа.

У гэтым годзе першы раз паявіцца ў «жалезных крамах» вялікая колькасць розных косаў, брускоў, бабак і т.п. Выглядае на тое, што не будзе ніякай бяды з купляю патрэбных машын, прыладаў і запасовых часцей. (С.Я.)




Тым часам Конэлі працягваў плесці сваю сетку. Адзін з яго планаў быў раскрыты Джэры Бруна, камандзіраваным для разведкі ў Тэхас Нацыянальным камітэтам дэмакратычнай партыі. У адпаведнасці з гэтым планам сенатар Ярбара не атрымліваў ганаровага месца каля трыбуны прэзідэнта. Дэталі гэтага плана важныя, паколькі яны вызначалі выбар будынка, у якім прэзідэнт павінен быў гаварыць прамову ў Даласе. Ад іх залежаў і маршрут руху прэзідэнцкага картэжа. Для выступлення прэзідэнта падыходзілі тры будынкі: Жаночай лігі, рынка і гандлёвага цэнтра. Бруна рэкамендаваў будынак Жаночай лігі, які хоць і стары, але мог умясціць шмат людзей. Аднак з-за нізкай столі Конэлі не мог рэалізаваць свой план, па якім як у Даласе, так і ў Осціне сталы для ганаровых гасцей устанаўліваліся на рознай вышыні. Прэзідэнт, віцэ-прэзідэнт і губернатар павінны былі б сядзець за сталом, размешчаным вышэй, чым астатнія. Менш высокапастаўленыя асобы, як, напрыклад, старшы па рангу сенатар Ярбара, займалі б месца за адным са сталоў, што стаялі ніжэй.

Бруна меў паўнамоцтвы прыняць на месцы канчатковае рашэнне. Спыні ён свой выбар на будынку Жаночай лігі, картэжу прэзідэнта не прыйшлося б праязджаць міма склада школьных падручнікаў. Аднак Бруна вагаўся, і пытанне спачатку засталося нявырашаным. Сакрэтная служба палічыла прыймальнымі ўсе тры вышэй названыя будынкі. Выбар прадставілі Беламу дому, дзе ўсё яшчэ спадзяваліся настроіць Канэлі на мірны лад.

14 лістапада саветнік Кенедзі О'Донел выбраў будынак гандлёвага цэнтра, але адхіліў ідэю размяшчэння сталоў на розных узроўнях. (Камісія Уорэна далажыла пазней, што будынак для банкета быў выбраны сакрэтнай службай са згоды О'Донела, аднак гэта не адпавядае сапраўднасці. Выбар будынка быў палітычным вырашэннем, і яго прымалі палітычныя дзеячы. Бруна адносіцца да ліку сведак, не дапытаных камісіяй).

Губернатар быў задаволены. У яго былі ўсе падставы разлічваць, што яго план ажыццёвіцца і ў Осціне, дзе таксама быў запланаваны прыём у гонар прэзідэнта, прыём, на які сенатар Ярбара запрошаны не быў.

* ✲ *

Цэлы месяц Байрана Скелтана, тэхаскага дэлегата ў Нацыянальным камітэце дэмакратычнай партыі, не пакідалі змрочныя прадчуванні. Яму перавaліла ўжо за пяцьдзесят, і ён быў самім увасабленнем паўднёвай рэспектабельнасці. За тры гады да гэтага іменна ён адыграў вядучую ролю ў арганізацыі гістарычнага проціборства паміж католікам Кенедзі і скептычна настроенымі пратэстанцкімі свяшчэннікамі пастырскай асацыяцыі Вялікага Х'юстана. Пазіцыя Скелтана ў Х'юстане заслужыла яму павагу і падзяку прэзідэнта. Цяпер, аднак, атмасфера ў Даласе настолькі напалілася падпальшчыцкімі выступленнямі, што Скелтан быў шчыра занепакоены. 4 лістапада ён вырашыў дзейнічаць. «Шчыра кажучы, — пісаў ён міністру юстыцыі, — я адчуваў бы сябе значна спакайней, калі б праграма паездкі прэзідэнта не прадугледжвала наведанне Даласа».

Праз два дні ён напісаў Уолтэру Джэнкінсу, правай руцэ Ліндана Джонсана, зноў дзелячыся дрэннымі прадчуваннямі, якія выклікаў у яго гэты горад. Каб быць упэўненым, што зрабіў усё магчымае, ён сам вылецеў у Вашынгтон і сустрэўся са старшынёй Нацыянальнага камітэта дэмакратычнай партыі Джонам Бейлі і Джэры Бруна.

Намаганні Скелтана ні да чаго не прывялі. Нікому, у тым ліку і Байрану Скелтану, не прыходзіла ў галаву думка, што Кенедзі могуць забіць у Даласе, але былі апасенні, што яго паставяць там у непрыемнае становішча. Аб тым, якія настроі панавалі ў Даласе, было, зразумела, вядома. Кожны, хто чытаў газеты, ведаў аб інцыдэнтах, што адбываліся там пастаянна. У 1960 годзе, у час выбарчай кампаніі, ашалелыя хатнія гаспадыні сустрэлі Ліндана Джонсана і яго жонку пляўкамі. 24 кастрычніка, у дзень Аб'яднаных Нацый, там быў зроблены напад на прадстаўніка ЗША ў ААН Эдлая Стывенсана, як заявіў на наступны дзень у гутарцы з саветнікам прэзідэнта Артурам Шлезінгерам, што нянавісць, відавочцам якой ён стаў у Даласе, прывяла яго ў жах. Няўжо прэзідэнт сапраўды думае ехаць у Далас?

Але, бадай, самае пераканаўчае папярэджанне прэзідэнту зрабіў ліберальны сенатар Дж. Уільям Фулбрайт з Арканзаса. Фулбрайт не давяраў Даласу, таму што ў гэтым годзе ўжо неаднаразова здараліся акты палітычнага насілля. Фулбрайт адчуваў страх і прызнаўся ў гэтым без хітрыкаў. 3 кастрычніка, за дзень да таго, як прэзідэнт зацвердзіў разам з Канэлі маршрут паездкі, ён настойліва прасіў Кенедзі аб'ехаць Далас бокам: «Далас — вельмі небяспечны горад. Туды не паехаў бы нават я. Вам гэтага рабіць нельга ні ў якім выпадку».

У Даласе тым часам панаваў трывожны настрой. Газеты ў перадавых заклікалі насельніцтва да максімальнай стрыманасці пачуццяў. Начальнік паліцыі Джэсі Керы публічна заявіў, што не пацерпіць непрыстойных паводзін, і мабілізаваў усе рэзервы. Горад

(Працяг са стар. 1)

# ДЗЕНЬ „Б" ГАДЗІНА „3$^{00}$"

Дзень і ноч чыгункай і аўтамашынамі напłывалі ва ўсходнія раёны войскі і ваенная тэхніка. Кожны генерал ведаў ужо свае заданні. Немцы разумелі, што так змасаванай канцэнтрацыі немагчыма схаваць ад людскіх вачэй. Даказвалі тады ўсялякімі спосабамі, што гэта таму, каб абмануць Англію. У Маскве тады яшчэ крыва глядзелі «на брытанскага ільва» і здаецца некаторыя паверылі, што рухі германскіх войск з'яўляюцца толькі тактычным манеўрам.

**30 сакавіка 1941 года Гітлер астаткова вызначыў «Дзень «Б» — дзень ажыццяўлення плана «Барбароса»: нядзеля 22 чэрвеня 1941 года.** Германія, занятая вайной на Балканах, не магла распачаць «справы Барбароса» 15 мая.

14 чэрвеня ў Берліне адбылася апошняя ваенная нарада вышэйшых камандзіраў і загадчыкаў штабоў **вермахта.** Гітлер заслухаў справаздач сваіх генералаў і супольна ўстанавілі, што **«Дзень «Б» пачнецца ў 3.00 гадзіны. 17** чэрвеня Гітлер аддаў канчатковы прыказ аб узброеным нападзенні на Савецкі Саюз. Сігналам да выступлення было слова: **«Дортмунд».** У загадзе гэтым Гітлер засцерагаў яшчэ сабе права на спыненне наступлення да 13 гадзіны 21 чэрвеня. Сігналам спынення — слова **«Альтона». Вечарам 20 чэрвеня Гітлер перадаў вермахту сігнал «ДОРТМУНД».** Была гэта пятніца. Над Бугам бестурботна спявалі салаўі.

**Віктар Рудчык**

# ЦІ ВЕДАЕШ?

Гадавая вартасць валавой прадукцыі ўсёй сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства за 1966 г. дасягнула **15,5 мільярда зл.** Гэта абазначае, што ўзрост вартасці валавой прадукцыі ў адносінах да 1965 г. выносіць больш 400 мільёнаў зл. На прырост гэтай вартасці ў асноўным мела ўплыў жывёлагадоўля.

■ Вартасць валавой сельскагаспадарчай прадукцыі з 1 гектара дасягнула ў мінулым годзе **10.249 зл.** У 1965 годзе — 9.678 зл., а ў 1960 г. — 8.005 зл.

■ Пагалоўе свіней значна павялічылася, прычым дынаміка прыросту свіней у 1966 г. на многа вышэйшая, чым была. У 1966 г. дасягнута колькасць пагалоўя свіней планаваную на 1970 год (1.084.000 штук).

■ З розных прычын (перад усім аб'ектыўных) у мінулым годзе сельская гаспадарка Беласточчыны не выкарыстала **120 мільёнаў** злотых інвестыцыйных сродкаў. (ак)

быў літаральна напоўнены паліцэйскімі.

За хорам папераджальных галасоў адбылася катастрофа. Паміж імі бездань, усю глыбіню якой дакладна, відаць, ніколі не ўдасца вызначыць. Праз дзесяць месяцаў пасля трагедыі камісія Уорэна не знайшла «ніякіх сведчанняў» сувязі паміж злачынствам Лі Харві Освальда і «агульнай атмасферай нянавісці», што панавала ў горадзе...

Лі Харві Освальд лічыўся індывідуалістам, і ўсе, хто залічваў яго ў гэту катэгорыю людзей, спрабавалі тлумачыць яго ўчынак, выходзячы з гэтага паняцця. І ўсе памыляліся. Сапраўды, ён быў абмежаваным чалавекам, які меў перад сабой у кожны даны момант адну-адзіную мэту. Мозг жа чалавека, які робіць замах на жыццё іншага, функцыянуе, як вузкакалейка. Але ні адзін чалавек не жыве ў адзіночку, наадварот, на любое яго дзеянне накладваюць свой адбітак час і грамадства, у якім ён жыве. Джон Бут, які застрэліў Лінкальна, дзейнічаў не па заданню канфедэратаў, а зрабіў замах добраахвотна. Лінкальн жа загінуў у крытычны момант гісторыі, у горадзе, які кішэў людзьмі, што сімпатызавалі жыхарам поўдня і былі ўзбуджаны да крайнасці, слухаючы бясконцыя падбухторшчыцкія прамовы. Спрабаваць дакладна ўстанавіць узаемасувязь паміж дзеяннем, часам і месцам — безнадзейна задума, але сапраўды смехатворна сцвярджаць, што такой узаемасувязі не існуе зусім і што злачынства ў тэатры Форда, дзе быў забіты Лінкальн, магло адбыцца ў грамадстве, не схільным да крызісу. **(Працяг будзе)**

**СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ!**




Поезд быў, як нітка. Мігцеў у вачах, рэйкі ўцякалі, беглі назад, а мы ехалі. Ехалі ў Варшаву, у тэатр на балет **Людаміра Ружыцкага «Пан Твардоўскі».**

Мы, гэта значыць, па-першае, беластачане. У нашым поездзе сядзелі пасажыры толькі з нашага Беластоцкага ваяводства. Мы, гэта значыць, па-другое, людзі розных прафесій, рознага ўзросту і з розных куткоў Беласточчыны. Былі сямігадовыя дзеці з бацькамі і былі 80-цігадовыя дарослыя людзі. Мы ведалі, што нашы землякі ў тую ж сталіцу Варшаву, у той жа тэатр едуць яшчэ 25 аўтобусамі па добрай шашы Беласток-Варшава. Нам было весела.

Нас зачараваў Вялікі тэатр і прадстаўленне. Тут на агромністай сцэне было ўсё: завальваўся палац, бухаў з д'ябальскага катла агонь, ляцеў угару Твардоўскі, былі громы і бліскавіцы.

У час перапынкаў мы ганяліся па велічным тэатры, каб убачыць усё яго багацце, яго цудоўныя асаблівасці і прыгажосць. Пасля адбывалася амерыканскае рэвю на ільду. Каскад колераў і рухаў. Найлепшае ж рэвю свету! Мы аднак усё яшчэ жылі «Панам Твардоўскім».

Ізноў наш родны спецыяльны поезд у Беласток. Тыя ж кандуктары, нашы машыністы. Некаторыя былі разам у тэатры. Імчаліся мы без астановак праз мазавецкія раўніны і ўспаміналі тое, што добра і цікава пражылі дзень — нядзелю. Заўтра прыдзе новы, з працай, абавязкамі. І доўга яшчэ будзем успамінаць, што бачылі адзін з прыгажэйшых у Еўропе тэатраў і выдатны твор музычнай польскай культуры.

Мы гаварылі, перагаварваліся, знаёміліся з людзьмі. 2/3 было з тэрэну, і гэта вялікае дасягненне мерапрыемства. Бо чалавек з горада мае магчымасць часцей спатыкацца з вялікай культурай. Адна наша сяброўка **Валянціна Сідарук** цешылася. Ёй 75 год. Сама з Сакольскага павета. «Калі б не гэты выезд, я б да канца жыцця не была ўжо ў Варшаве, а што казаць аб тэатры!» З таго ж самага павета ездзіла з намі група настаўнікаў 100 асоб.

Нашы самаходы радам устаўленыя на абшырным Тэатральным пляцы з гордай Ніке вясёла аглядалі працаўнікі Вялікага тэатра. Цешыліся разам з намі. У іх мы маем цяпер сяброў. Так хутка зжыліся! Яны такія ветлівыя.

Хіба я яшчэ выбяруся на экскурсію, калі будзе магчымасць. (вл)

Эпілог.

Рэдакцыя паведамляе, што ў рамах нашай супольнай з «Грамадай» акцыі **«Сядайце, едзем»** адбудзецца другое мерапрыемства такога ж роду, як вышэй апісанае. Зноў поездам і аўтобусамі паедуць ахвотныя ў Варшаву. 25 чэрвеня ў 12 гадзін будуць у Вялікім тэатры на балеце «Пан Твардоўскі», а ў 16 гадзін група ўдзельнікаў экскурсіі пойдзе ў тэатр «Камедыя» на пастаноўку «Сэрца ў растэрцы», другая група будзе ў тэатры «Сірэна» на «Лунаем сярод зорак».

Паведамляючы аб гэтым, запрашаем усіх да ўдзелу.

Заяўкі прымае:
STW „Gromada"
Białystok, Warszawska 38
Siemiatycze, Plac Wyzwolenia 17. (вл)



# ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

**ШТО НОВАГА?**

Бельская павятовая бібліятэка прыслала новую партыю купонаў — 41 штука. З гэтага з:

Грамадскай бібліятэкі ў Рыбалах — 16.
Грамадскай бібліятэкі ў Галадах — 9.
Грамадскай бібліятэкі ў Храбалах — 10.
Грамадскай бібліятэкі ў Плёсках — 6.

Бельскі павет мае ўжо 335 купонаў і вядзе ў конкурсе. Дзякуем!

**ШТО ЧЫТАЦЬ?**

**Іван Шамякін**
**«КРЫНІЦЫ»**
Адна з лепшых кніжак у беларускай літаратуры.

**Уладзімір Дадзіёмаў**
**«НАД НЁМАНАМ»**
Сучасны раман.

**Яўген Васілёнак**
**«РОЗНЫЯ ДАРОГІ»**
Апавяданні нежывучага ўжо аўтара з былой Заходняй Беларусі.

**Змітрок Астапенка**
**«ВЫБРАНАЕ»**
Зборнік вершаў.

**Аркадзь Куляшоў**
**«ГРОЗНАЯ ПУШЧА»**
Аповесці пісаныя вершам.

**Хвядос Шынклер**
**«ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ»**
Тут знойдзем апавяданні, аповесці, п'есы.

**Язэп Пушча**
**«ВЕРШЫ І ПАЭМЫ»**

**Васіль Вітка**
Вершы, паэмы, п'есы, казкі, апавяданні.

Усё сабрана ў зборніку «ПАВЕРКА».

# Ці ўцякаюць людзі з вёскі?

Так. Уцякаюць. Інакш кажучы, выязджаюць у Беласток. Перш за ўсё хутка растуць лікі часовамэльдаваных асоб. Звязана гэта са з'яўленнем у сярэдніх школах моладзі, народжанай пасля вайны — да 1950 года. Пасля вайны заўсёды родзіцца больш дзяцей, чым нармальна.

Сярод часовамэльдаваных перавага вучняў, і гэта зразумелае, улічыўшы новаўведзеныя абмежаванні адносна прыпіскі дарослых у горадзе. Цяжка сказаць дакладны лік усіх вучняў з розных аколіц Беластоцкага ваяводства. Прыблізна ўстанавіў я толькі, што вучняў з беларускіх паветаў у Беластоку знаходзіцца каля тысячы. Але дарэчы. І так, калі яшчэ ў канцы 1965 года было ў Беластоку дакладна 5.682 часовамэльдаваныя асобы (мужчын 2.534), дык ужо ў канцы мінулага года было 8.759 часовамэльдаваных асоб, а ў гэтым годзе амаль удвая — у параўнанні да 1965 г.

Падобныя думкі насоўваюцца, калі прыглядзецца да лікаў пастаяннамэльдаваных асоб. Калі ў першым квартале 1965 года да 1.483 асобы атрымала прыпіску на пастаяннае пражыванне ў Беластоку і 1.017 асоб выбыла з Беластока на пастаяннае жыхарства ў іншыя мясцовасці ваяводства і Польшчы, дык ужо ў чацвёртым квартале таго ж года атрымала пастаянную прыпіску 1.650 асоб, а выбыла — 960 асоб. Прыглядзеўшыся да падобных лікаў за мінулы год вынікае, што ў Беласток прыбывае ўдвая больш насельніцтва, чым выбывае. У І квартале м. г. — 1.400 і 672 асобы, у IV кв. — 1775 і 826 асоб. Гэтыя лікі датычаць асоб, якія прыбылі ў Беласток, і асоб, якія выбылі з Беластока ў іншыя гарады.

У гэтым годзе ў сярэднім 491 асоба **штомесяц** атрымоўвае пастаянную прыпіску ў Беластоку і 228 асоб выбывае з Беластока ў іншыя гарады на пастаяннае жыхарства. Як бачым, у Беласток **з'язджаецца штораз больш людзей.** Значна больш, чым нават два гады таму назад. (С.Я.)

**ФАЛЬКЛОР**

# „Чартавіска"

На захад ад нашай вёскі высокаю сцяною стаіць лес, названы Чартавіскам. Цяпер дайсці да яго можна дарогаю, якая праходзіць праз лугі.

Калісьці гэты лес і навакольныя абшары сенажацяў для акалічных людзей былі недаступнаю дрыгвою. Аднак здаралася, што хтосьці ночча, збляўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады адбывалася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Выдавала таксама нейкія незразумелыя гукі. Той, хто ішоў следам гэтага з'явішча, трапляў у нетру, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то праходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца. Старэйшыя гаварылі, што многа год таму назад жыў тут чорт з д'ябалкай, і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'яўляўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя. Свайм крыкам склікалі да сябе чарцей з іншых мясцовасцей і разам стараліся здзекавацца над чалавекам. Таму гэты лес па сённяшні дзень старыя і малыя называюць Чартавіскам, хаця чэрці даўно ўжо адсюль уцяклі ў невядомым напрамку, і ніхто іх не бачыць. Мо' пайшлі на «пенсію»?

**Ліда Грыц**
Луплянка
Беластоцкі павет



**НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СПРАВЫ**

# Камуністы а нацыянальная праблема

У II нумары трохмесячніка «Z pola walki», які толькі што паявіўся ў продажу, апублікавана абшырны артыкул Т. Данішэўскага пад загалоўкам: «Stanowisko ruchu komunistycznego w kwestii narodowej w latach trzydziestych».

Прадметам артыкула з'яўляецца аналіз перамен у адносінах камуністаў да ўласнай нацыі і дзяржавы. Аўтар адрознівае чатыры перыяды, якія характарызуюць розны падыход партый пралетарыята да гэтай праблемы. Першы перыяд характарызавала падкрэсліванне іншасці пралетарыята ад усіх іншых класаў і слаёў — разыходзілася аб яго палітычнае і ідэйнае самаакрэсленне. Нацыянальныя ідэі адкідаліся як нацыяналізм, падкрэслівалася перад усім інтэрнацыянальную супольнасць пралетарыята. Пераўтварэнні ў гэтых адносінах звязаны былі перад усім з дзейнасцю Леніна і Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Чацвёрты і апошні этап гэтых пераўтварэнняў пачаўся ў трыццатых гадах. Ва ўсіх краінах высунуты былі заданні камуністаў у адносінах да ўсяго свайго народа. Этап гэты трывае да сёння — з'яўляецца ён выпраўленнем дагматычных поглядаў на справу нацыі і нацыянальнай незалежнасці.

Данішэўскі многа месца прысвячае аналізу ўдзелу паасобных кампартый ва ўласцівай развязцы нацыянальнай праблемы, а таксама аналізу падыходу да гэтай праблемы з боку КПП. (п)

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВЁСКА ІСТОК

ВёскаІсток на Гайнаўшчыне налічвае звыш 50 гаспадароў. За гады народнай улады ў вёсцы адбыліся вялікія змены. Перш за ўсё гэта можна заўважыць у будаўніцтве. З'явілася многа новых дамоў і будынкаў гаспадарчага прызначэння, пераважна крытых чарапіцай. Вёска электрыфікавана і радыёфанізавана. Зямля тут неўраджайная, таму многія людзі працуюць на дзяржаўных работах, а найбольш на чыгунцы. У вёсцы ёсць пачатковая школа, а таксама клуб «Руху».

**Янка Петручук**
Тафілаўцы

## ВАРВАРСТВА

На трасе Міхалова-Ялоўка і Юшкаў Груд — Бандары на многіх прыпынках аўтобуса былі пастаўлены будкі, якія ахоўвалі пасажыраў ад дрэннай пагоды. Пастаялі яны аднак нядоўга. Зараз едучы аўтобусам, на прыпынках у Баршчэве, Бахурах, Таніцы і іншых можна пабачыць, як гэтыя будкі стаяць панішчаныя «дагары нагамі». Цяпер нішто не ахоўвае пасажыраў ад дажджу.

М. Л.
Беластоцкі павет

## ПАДВОЙНЫ МІЛЬЯНЕР

Аб працы ПЗГС у Гайнаўцы мы пісалі ўжо не раз. Ініцыятыва акцыі пабудовы грамадскім чынам крамаў, актыўнасць гайнаўскіх ГС-аў вядомая зрэшты не толькі на Беласточчыне.

У гэтай дзейнасці асноўнае месца адыгрывае **ГС у самай Гайнаўцы.** У гэтым годзе, калі разыходзіцца аб эканамічныя эфекты, гайнаўская ГС заняла **другое месца** ў Беластоцкім ваяводстве.

За мінулы год сам прыбытак вынес тут **2,2 мільёна зл.** Але гэта не прыйшло само па сабе. На працягу аднаго года грашовае абарачэнне ў 29 крамах узрасло за мінулы год на 6,5 мільёна зл., а вартасць скупкі — на 14 мільёнаў зл. Нельга не сказаць аб паслугах, якія рабіла гайнаўская ГС. Іх вартасць у мінулым годзе — 12 мільёнаў зл. (ак)

## УВАГА! ЁСЦЬ ВУГАЛЬ

Як даведаліся мы, ва ўсіх ГС-ах цяпер ёсць удосталь вугалю, які можа набыць сабе на зіму **кожны гаспадар.** Продаж неабмежаваны — але **толькі да канца гэтага месяца.** Пасля могуць быць цяжкасці з купляю вугалю.

**Таму** варта падумаць аб тым, каб ужо цяпер накупіць сабе ў ГС-е вугалю на ўсю зіму. Пара тым больш адпаведная, што кончыліся вясеннія работы ў полі і ёсць хвіля перадышкі перад сенакосамі і летнім жнівом. (ся)

## ДУМАЙМА АБ «СТОНЦЫ»

Бульба пасаджана, і хуткі той час, калі пачне бушаваць па ёй «стонка». Мы ўжо даўно пераканаліся, што са «стонкаю» няма жартаў. Трэба загадзя закупіць хімікаты, патрэбныя да знішчэння «стонкі». У мінулыя гады не хапала нам гэтых хімікатаў, але ў гэтым годзе ёсць іх удосталь. Час забяспечыцца такімі хімікатамі, як «Дзітакс», «Трытакс» або «Азотакс». (ся)

---

ты лічыш, што трэба ісці зараз, пашлі, я гатова.

— Пачакай, — сказаў Муха, — я табе падрыхтаваў паесці.

— Дзякую, — усміхнулася Аня, — а то я галодная, як воўк.

Муха вышаў у сені і вярнуўся з талеркай, у якой ляжала вараная бульба, жоўтая соль і маладая, відаць, проста з гарода, зялёная цыбуля.

— Ой, дзякую, — сказала Аня, — прыгажосць якая...

Праз дзесяць мінут яны вышлі.

— Слухай, Аня, — спытаў Муха, — а якое ў нас заданне цяпер будзе, не ведаеш?

— Ведаю, — адказала Аня, — заданне спецыяльнае, дэталі табе Віхор вытлумачыць. Толькі не крыўдуй, добра? Я ж цябе не пытаю аб тваіх сувязях і яўках. Прыдзе Віхор — з ім разбярэцеся.

— Ды я не крыўдую, што ты... Ён доўгі такі, Віхор, так? Вочы сінія-сінія?

Аня азірнулася. Па дарозе следам за імі ехала дзяўчына на ровары. Больш нікога не было. Аня азірнулася яшчэ раз: ровар выдаўся ёй знаёмым — дакладна такі ж, як у хлопчыка, што прыехаў за хлопцам у крагах.

— Тут ровараў шмат? — спытала Аня.

— У кожнай хаце. А што?

— Нічога. Цікаўлюся на ўсялякі выпадак.

І яны павярнулі ў лес.

**(Працяг будзе)**

## РАСТУЦЬ ХУЛІГАНЫ

У вясковым насельніцтве вядзецца даўнейшы звычай спраўляць гучнае вяселле. Такое вяселле было 21 мая ў Таніцы (Беластоцкі павет). Прыехаўшы ад шлюбу, вясельнікі паселі за сталы. Пад'еўшы крыху, пайшлі танцаваць у суседнюю хату. У той час група хуліганаў з Новай Волі запаліла горбу дроў на загуменні А. Буры. Усе думалі, што гарыць гумно А. Буры і пабеглі ратаваць, а хуліганская групка, выбіўшы два акны, улезла ў хату, дзе было вяселле, і ўкрала два вясельныя торты, літр водкі і міску каўбасы.

**«Чарот»**
Беластоцкі павет

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — «НІВА» АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** Суд прызнаў майго сына бацькам няшлюбнага дзіцяці. Цяпер сын мой у войску і не можа плаціць аліментаў. Матка дзіцяці звярнулася ў суд, каб засудзіў ад мяне на ўтрыманне дзіцяці. Як гэтая справа рэгулюецца законам?

**Адказ:** Суд можа засудзіць на ўтрыманне дзіцяці ад дзядоў у абставінах, калі:

1. асоба, якая мае права да аліментаў г.зн. дзіця, знаходзіцца ў недастатку.

2. забавязаны да ўплачвання аліментаў бацька дзіцяці не можа выканаць свайго абавязку.

У Вашай справе ясным ёсць, што бацька плаціць аліментаў не можа, паколькі ніякіх даходаў не мае, хіба што ёсць у яго свая маёмасць, з якой аліменты могуць быць сцягнуты. Значыць, што калі суд сцвердзіць, што дзіця знаходзіцца ў недастатку, засудзіць ад вас на ўтрыманне дзіцяці.

Варта заўважыць, што сам бацька абавязаны плаціць аліменты і тады, калі дзіця не знаходзіцца ў недастатку, прыкладам, калі яго маці зарабляе добра і можа сама ўтрымоўваць дзіця.




**Дарагое Сэрцайка!**

«Маю 18 год і жыву на вёсцы. Скончыла пачатковую школу і СПР. Вельмі хацела б быць кандуктаркай у ПКС-е. Не ведаю, куды звярнуцца. Падай дакладны адрас. За параду буду вельмі ўдзячна», — піша Валя Ш. з Беласточчыны.

А вось і другі ліст:

«Маю 20 год і жыву на вёсцы. Хачу працаваць кандуктаркай у ПКС-е, але не ведаю, куды звярнуцца. Чакаю адказу. Незнаёмая».

Паважаныя дзяўчаты!

Набор на кандуктаркі ў ПКС-е праводзіць Ваяводскае прадпрыемства камунікацыі самаходовай у Беластоку вул. Фабрычная 1. Калі патрэбны новыя кандуктаркі, тады гэтае прадпрыемства высылае запатрабаванні ў аддзел затруднення ў Беластоку, якое выдае скіраванні зарэестраваным, якія шукаюць працы. Калі б не было ахвотных у Беластоку, тады Прадпрыемства ПКС высылае запатрабаванні ў павятовыя аддзелы затруднення (аднак гэта амаль што не здараецца). Рэеструе (запісвае) аддзел затруднення толькі тых, якія жывуць у Беластоку, скіраванняў не выдаецца не зарэестраваным і не пражываючым у Беластоку.

У вашым выпадку, калі вы пражываеце на вёсцы, няма мажлівасці быць кандуктаркай. Трэба было б найперш перабрацца жыць у Беласток, а потым, будучы запісаным у аддзеле затруднення, даведвацца аб наборах на кандуктаркі. Аднак раю вам, дзяўчаты, звярнуцца ў павятовы аддзел затруднення, ён вам дараіць, мо' ёсць якая-небудзь мажлівасць атрымаць такую працу праз павятовы аддзел затруднення, які вам усё павінен вытлумачыць.

Сэрцайка

## АРЛЯНСКІ ДЗЕТСАД



Прыемна праводзяць час дзеці ў дзіцячым садзе ў Орлі. Маюць тут яны шмат забавак і часта гуляюць на вольным паветры.

Дзеці з групы выхавацельніцы Любы Качэлюк гуляюць на панадворку.

Тэкст і фота: З. П.
Орля

## БРУКУЕЦЦА МАСТАВАЯ



Студзіводы ад некалькі год з'яўляюцца вуліцай мястэчка Бельск Падляшскі. Падчас даўжэйшай непагадзі або пасля зімы цяжка дайсці да Студзіводаў. Зараз будуюць там брукаваную маставую. Шмат укладаюць грамадскай працы жыхары гэтай вуліцы. Найбольшую ахвярнасць праяўляе падчас будовы вуліцы старшыня «бляковага» камітэта — Павел Панасюк.

Брукары ўкладаюць маставую.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**

## НІШЧЫЦЬ ПУСТАЗЕЛЛЕ

Яшчэ ў мінулым годзе ў Плёсках мала хто апырскваў свае палі ад пустазелля. Сяляне вырывалі яго рукамі. Барацьба з пустазеллем у 1967 г. аказалася зусім лёгкай. Сельскагаспадарчы гурток закупіў конны апырсквач «Ользу» і вялікую колькасць «хвастабойчых» сродкаў. Цяпер у Плёсках амаль кожны селянін карыстае з гэтых услуг, мала, пры гэтым, трацячы часу. А вынікі, як вядома, вялікія. Аніводная зялінка пустазелля пасля апырсквання не ўтрымаецца на полі. У гэтым кірунку на пахвалу заслугоўвае селянін з Плёсак — перадавік аховы раслін — Павел Касянюк.

**Л. Л.**
Плёскі

## «НІВА» — ШКОЛЬНЫМ ДАПАМОЖНІКАМ

Вядомым з'яўляецца ўсім, што моладзь, якая вывучае беларускую мову ў пачатковых класах, не мае патрэбных падручнікаў, дастасаваных да новай праграмы. Гэта ў вялікай ступені абніжае ўзравень вучняў і ўскладняе працу настаўнікам. Адзінай дапамогай з'яўляецца «Ніва», на старонках якой друкуецца адпаведны літаратурны матэрыял для V—VIII класаў. І таму на маю думку, кожны вучань, кожны настаўнік і кожная школа павінна абавязкова быць падпісчыкам «Нівы». Але, на жаль, не ўсе загадчыкі школ і настаўнікі так думаюць. У Грабаўцы амаль ніводзін вучань не выпісвае «Нівы». Відавочна загадчык школы думае, што ўсе часопісы ў школе прыносяць моладзі карысць, толькі не «Ніва». А шкада!

Добра было б, каб у новым годзе для дабра свайго і сваёй школы кожны вучань у гэтай школе і ў другіх (падобных) меў на парце гэты вартасны і вельмі патрэбны вучням дапаможнік.

**В.Б.**
Гайнаўка

## ЗМЕНІЦЦА ПАРОДА АВЕЧАК

Сяляне вёскі Белкі, Гайнаўскага павета, гадуюць многа авечак і пасуць іх на супольным выпасе. Агулам у вёсцы 750 штук авечак. Дробныя гэта авечкі і даюць горшай якасці воўну. Цяпер ужо жыхары вёскі Белкі маюць 6 пародзістых бараноў узятых з аддзела сельскай гаспадаркі ПРН. Гэтыя бараны напэўна зменяць пароду нашых авечак, і тады палепшыцца якасць воўны.

**«Ярош»**
Белкі

# КІНО

**Праграма**
**на 20-25.VI.1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Rok przestępny" (radz.), 20—21. „Ucieczka w milczenie" (NRD), 22—23. „Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), 24—25.

**Кляшчэлі**
„W krainie dziwnych zwierząt" (radz.), 20—21. „Sami na wyspie" (jugosł.), 22—23. „Chudy i inni" (polski), 24—25.

**Дубіны**
„Przed nami zakręt" (radz.), „Tytoń" (bułg.), 24—25.

**Нараўка**
„Panie inspektorze" (jugosł.), „Śmierć Belli" (franc.), 21—25.

**Чыжы**
„Barwy walki" (polski), „Trzy światy Guliwera" (angl.), 21—25.

**Дубічы Царкоўныя**
„Święta wojna" (polski), „Wystrzał" (polski), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**
„Strzelby apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 21—25.

**Райск**
„Sprawa Barnaby Kossa" (czeski), „Nikt nie zna prawdy" (radz.), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„W poszukiwaniu wczorajszej miłości" (węgierski), „Partyzanckim szlakiem" (jugosł.), 20—23.

**Міхалова**
„Białe pustkowie" (USA), 20—21. „Tomcio Paluch" (USA), 22—23. „Kochajmy syrenki" (polski), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Nieznajomi z pociągu" (USA), 20—21. „Popioły" (polski), I i II s. 22—25.

**Шудзялава**
„Szalone wakacje" (jugosł.), „Tak blisko nieba" (czeski), 21—25.

**Сідра**
„Poślubny rejs" (angl.), 20—21. „Poławiacze gąbek" (radz.), 22—23. „Bokser" (polski), 24—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Gdy miłość przemija" (jugosłowiański), „Rycerz bez zbroi" (bułg.), 21—25.

**Ліпск**
„Arcylokaj" (franc.), „Biała pani" (czeski), 24—25.


# Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.700 Błtk M-3

# ПРАПАЎ ЗУБ

Сымон соладка пазяхнуў, бестурботна пацягнуўся ў цёплай пасцелі і, зірнуўшы на асветлены сонцам насценны гадзіннік, раптам зваліўся з ложка, нібы хто стукнуў яго па патыліцы.

— Усё, прапаў ты, Сымоне Бірулькін, — пранеслася ў галаве думка з касмічнай хуткасцю. — На гэты раз мяне звольняць. Вось табе і выпіў, закусіў. За першае спазненне — папярэджанне, за другое — строгая вымова, а за трэцяе...

Бірулькін нервова зашнураваў вастраносыя чаравікі і, зноў зірнуўшы на гадзіннік, стрэлка якога няўмольна набліжалася да дзевяці, бездапаможна прысеў на непрыбраны ложак. Адразу ж паплылі ўспаміны ад першага дня да сённяшняга. «Так, — думаў Сымон, — давядзецца развітацца з пасадаю майстра на вінзаводзе. А цёпленькае месца было!»

І раптам, нібы маланка, бліснула думка. Бірулькін ледзь не зарагатаў ад радасці.

— Абвяду ўсіх навокал пальца.

Сымон, уяўляючы, як трэба весці сябе перад урачом, застагнаў, схапіўшыся ўсёй пяцярнёй за шчаку, і пайшоў на прыём.

— Малады чалавек, — сказаў урач у вялікіх рагавых акулярах, — але ж ваш зуб зусім здаровы.

— Здаровы? А сківіцы ад болю зводзіць, — прастагнаў Сымон, схапіўшыся за шчаку. — Не здзекавайцеся, доктар, вырвіце яго, каб мяне не мучыў.

— Я вам раю прайсці рэнтген, і вы ўпэўніцеся, што гэтым зубам яшчэ жалеза можна грызці.

— Ніякіх рэнтгенаў! Вось мой зуб, а вось вашы прылады. Вырывайце!

Праз некалькі хвілін Сымон паласкаў нейкім растворам рот і ў думках радаваўся сваёй знаходлівасці.

— Вось цяпер усё ў парадку, — сказаў Бірулькін, — толькі яшчэ выпішыце, доктар, гэту, як яе... Даведку дайце мне, каб дырэктар не залічыў спазнення.

— Няўжо і ў нядзелю ў вас рабочы дзень?

— Прычым тут «нядзеля»?

— Нядзеля, кажу, сёння.

Сымон абмяк, прамармытаў нешта незразумелае і потым выціснуў:

— Усё, прапаў.

— Што прапала?

— Зуб, кажу, прапаў. — І Сымон паволі накіраваўся да дзвярэй.

**Мікола Гулевіч**





**— А што ж Наташа не ідзе? Дык ёй учора шаснаццаць скончылася.**

### НЯЎЖО ВЕДАЕ

Аднойчы раззлаваная мама свайму пяцігадоваму сыну:

— Мікі, ты самы нядобры з усіх дзяцей на свеце!

— Няўжо ты ведаеш іх усіх, мамачка?

### ДАВЕРЛІВЫ ЖАНІХ

— Мая дачка згадзілася стаць вашай жонкаю. Вы ўжо прызначылі дзень вяселля?

— Я давяраю гэта зрабіць маёй нявесце.

— Вы хочаце брацца шлюб у царкве ці ў радзе?

— Хай вырашае гэта яе маці.

— А якія ў вас сродкі? На што вы збіраецеся жыць?

— А ў гэтым я цалкам разлічваю на вас.

### А ЯК ЖА

Начальнік (да новага супрацоўніка): — Ці казаў вам галоўны бухгалтар, што вы павінны рабіць у час абеду?

Супрацоўнік: — А як жа, казаў — мне трэба глядзець і паведамляць яму, што вы будзеце есці.

### У РЭСТАРАНЕ

Афіцыянт: — Раю вам заказаць гуляш! Гэта пробны камень нашага новага кухара.

Кліент: — Дзякую, але каменя я не ем, нават пробнага.

### ЧЫЕ ЧАРАВІКІ?

Жанчына прыйшла на работу ў новых чаравіках.

— Ну і чаравікі! — заўважылі сяброўкі. — Гэта нашы ці замежныя?

— Гэта мае чаравікі.

### СВАЯ ЛОГІКА

Добра падпіўшы, грамадзянін чакае трамвая ў дзве гадзіны ночы. Да яго падыходзіць міліцыянер.

— Грамадзянін!.. Трамваі ўжо не ходзяць...

— А ч-чаму тады р-рэйкі ляжаць...

### КОЛЬКІ ГОД

— Праўда, у гэтым капелюшы я выглядаю прынамсі на дзесяць год маладзей?

— А колькі вам год?

— У капелюшы ці без яго?

### ДАВЯДЗЕЦЦА ЯШЧЭ ДОЎГА ПІСАЦЬ

Ахвотна дапамагаючы таленавітай моладзі, Бетховен быў рэзкі і бязлітасны з бяздарамі. Калі да яго панадзіўся нейкі самазадаволены хлюст, кампазітар, уважліва праслухаўшы яго творы, спахмурнеў і сказаў:

— Так, юнача, вам давядзецца яшчэ доўга пісаць, пакуль вы зразумееце, што пісаць вам не варта.

Алесь Ставер

## АДКУЛЬ БЯДА?

Народная балада-жарт

Аднойчы ў пагодлівы восеньскі вечар
Сабраліся ў клуб мужыкі.
Мудрэц-жартаўнік, зарачанскі дзед Чэча
Паведаў расказ ім такі.

— Здарылася гэта якраз на Купалле, —
Не помню я ўжо ў які год, —
Жанкі ля агню гучна песні спявалі,
Вадзілі жанкі карагод.

Свяціліся зоры з нябеснае высі,
І іскры ішлі ў вышыню...
Ды раптам... Ды раптам — адкуль ні вазьміся! —
Сам чорт прыляцеў да агню.

Маленькі такі, і чарнявы-чарнявы, —
Ну з выгляду, нібы тхарок, —
Не дужа каб страшна, ды надта рухавы —
Круціцца пачаў ля жанок.

І то зараве быццам бык той з рагамі,
То выдасць бязладную звонь...
Пачалі жанкі ўсе махаць падаламі,
Каб чорта загнаць у агонь.

Ды ён нежывым ля агню прытварыўся, —
Быў хітры нячысцікаў дух! —
У шмат варыянтаў уміг растварыўся,
Жанкам пад падол раптам — шух...

З той хвілі жанкі сталі хцівей за кобру,
І сталі капрызныя ўсе, —
То тое ім дрэнна, то гэта нядобра,
Бо чорт у іх целе засеў.

Мужчыны таксама пра ўсё гэта знаюць,
І ім даўся злыдзень у знак,
І чорта вякамі ганяюць, ганяюць,
Ды выгнаць не могуць ніяк...



**— Вядома, я згодзен з Дарвінам. Так, мы стрыечныя браты, толькі аддай ключ ад клеткі!**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Гані Жэпка з Кляшчэляў, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п.з.

## ПЕСНЯ О ТРЕВОЖНОЙ МОЛОДОСТИ

Забота у нас простая,
Забота наша такая:
Жила бы страна родная
И нету других забот.

Припев:

И снег, и ветер,
И звезд ночной полет...
Меня мое сердце
В тревожную даль зовет.

Пускай нам с тобой обоим
Беда грозит за бедою,
Но дружба моя с тобою
Лишь вместе со мной умрет.

Припев.

Пока я ходить умею,
Пока глядеть я умею,
Пока я дышать умею,
Я буду идти вперед.

Припев.

И так же, как в жизни каждый,
Любовь ты встретишь однажды.
С тобою, как ты, отважно
Сквозь бурю она пойдет.

Припев.

Не думай, что все пропели,
Что бури все отгремели, —
Готовься к великой цели,
А слава тебя найдет.

Припев:

И снег, и ветер,
И звезд ночной полет...
Меня мое сердце
В тревожную даль зовет.




### Прапанова

У адной з заходненямецкіх газет апублікавана заява наступнага зместу: «Якая з партый выстараецца мне кватэру з чатырох пакояў з ваннай? Узамен абяцаю 2 галасы на выбарах. З прапановамі прашу звяртацца па адрасу...»

### Першыя калёшы



Упершыню калёшы з'явіліся ў індзейцаў. Туземцы ўзбярэжжа Амазонкі рабілі іх даволі прымітыўным спосабам: яны ставілі босую нагу пад сцякаючы з каўчуканоснага дрэва сок. У XIX стагоддзі такія пазалочаныя калёшы даставіліся ў Паўночную Амерыку і каштавалі дорага.

### Заказ



Адзін фермер напісаў у выдавецтва энцыклапедый: «Прашу прыслаць мне накладнай платай вала, фатаграфія якога змешчана на 1091 старонцы вашага каталога».



**Не шукай глыбіні ў лужыне.**